# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 22 (2216)

30 мая 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.




21 мая пачала сваю работу сесія Вярхоўнага Савета БССР. Да сесій ужо прывыклі, як да палётаў у космас, нават не заўважаем іх, не ведаем даты іх адкрыцця. Але 21 мая чакалі ўсе з трывогай і надзеяй, з хваляваннем. Рабілі прагнозы і задавалі сабе пытанні: дык абыдзецца без забастоўкі ці не?

Безумоўна, красавіцкія падзеі ў Беларусі — мітынгі, забастоўкі, палітычныя патрабаванні рабочых — мелі свой уплыў на падрыхтоўку да сесіі і парадак работы. Але Вярхоўны Савет рашыў быць цвёрдым і даказаць, што ўлада ў яго руках. Патрабаванне дэпутата апазіцыі С. Антончыка прадаставіць высокую трыбуну прадстаўнікам стачкама для абвяшчэння звароту да народных дэпутатаў сесія не падтрымала. У зале зноў намецілася канфрантацыя: большасць — апазіцыя.

Наогул, палітычнае жыццё на плошчы Леніна ў Мінску праходзіць нібы ў дзвюх плоскасцях — за сценамі Дома ўрада, дзе адбываюцца пасяджэнні Вярхоўнага Савета, і перад афіцыйным гмахам, дзе мітынгуюць прадстаўнікі рабочага класа рэспублікі. У паветры — павевы ўсеагульнай палітычнай забастоўкі. Ці адбудзецца яна?..

НА ЗДЫМКАХ: апазіцыя ў Вярхоўным Савеце рвецца да мікрафона; процістаянне перад Домам урада.




# АПАНТАНАСЦЬ

*Да 110-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Івана ЛУЦКЕВІЧА*

Да імёнаў славутых беларусаў, што доўгія гады сарамліва замоўчваліся, належыць і імя Івана Луцкевіча. Апантаны беларускай ідэяй, ён аддана служыў ёй, прысвяціўшы сваё кароткае жыццё адраджэнню духоўнасці народа, збіраючы скарбы яго матэрыяльнай і духоўнай культуры. У маі споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння Івана Луцкевіча, і, бадай, упершыню пасля яго смерці мы можам свабодна гаварыць і пісаць пра вучонага, патрыёта, інтэлігента, аддаючы належнае яго выдатнай асобе.

Іван Луцкевіч даўно быў вядомы тым, хто цікавіўся беларускай гісторыяй. Я неаднойчы чула ад Канстанцыі Буйло, якая, згадваючы сваю маладосць і першыя крокі на паэтычным шляху, гаварыла, што ў рэдакцыі "Нашай нівы" гаспадарылі браты Луцкевічы. Прасіла расказаць пра іх больш падрабязна, але яна змаўкала, спасылаючыся, што амаль нічога не памятае. Жыццё навучыла яе быць надзвычай асцярожнай і абачлівай, не давяраць свае думкі і ўспаміны ні паперам, ні людзям. Упэўнена, што, каб дажыла паэтэса да нашых дзён, мы пачулі б многа невядомага і пра братоў Луцкевічаў, і пра Ластоўскага, і пра Янку Купалу...

Пра жыццё і справы Івана Луцкевіча, пра яго трагічны канец я ўпершыню пачула гадоў 15 назад, прыехаўшы ў Вільню да Зоські Верас. Апавядальнікам быў яе зяць Лявон Луцкевіч, пляменнік Івана Луцкевіча і сын яго брата Антона. Ён гартаў перада мной старонкі альбомаў, знаёмячы з членамі знакамітай сям'і, яшчэ больш, здаецца, было фатаграфій, замалёвак экспанатаў беларускага гісторыка-археалагічнага музея ў Вільні, які насіў імя свайго стваральніка і заснавальніка Івана Луцкевіча. Запаў у душу і сумны расказ аб яго заўчаснай смерці ад сухотаў. Івану Луцкевічу не было і сарака, калі ён у безнадзейным стане паехаў лячыцца ў Закапанэ. Удалечыні ад дому, на чужой зямлі, ён памёр летам 1919 года. Магіла яго не даглядалася, і Лявон Антонавіч тады непакоіўся, што яна можа беззваротна згубіцца. Вялікае шчасце і гістарычная справядлівасць, што прах Івана Луцкевіча сёлета перавезены на Радзіму і тут перазахаваны.

Я ўспомніла тую даўнюю сустрэчу з Лявонам Луцкевічам напярэдадні 110-гадовага юбілею яго выдатнага сваяка і зноў паехала ў Вільню, спадзеючыся ўзнавіць даўно чутае, распытаць пра супольнасць спраў і думак братоў Луцкевічаў, якая, несумненна, існавала, але гаварыць пра якую раней было нельга.

Размова наша пачалася з зусім іншага, здавалася б, вельмі далёкага ад Івана Луцкевіча, але потым нечакана і арганічна злілася з патрэбнай тэмай, бо, як стала зразумела, часы мяняюцца, а праблемы застаюцца, праблемы духоўнай абяздоленасці беларусаў.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

**Раман Віктара ВАЛЬТАРА "РОДЖАНЫЯ ПАД САТУРНАМ" — пра жыццё і мары беларускай студэнцкай моладзі ў Празе чэшскай у 20—30 гады да гэтага часу нідзе не апублікаваны. Рэдакцыя пачынае яго друкаваць з наступнага нумара.**

**Пра аўтара "Роджаных пад Сатурнам" чытайце нататкі С. Панізніка "Знаёмцеся: пісьменнік Віктар Вальтар".**

(Стар. 4).



УЗНАГАРОДЫ

## РАБОЧАМУ САЮЗУ МІЛАСЭРНАСЦІ

Сябры пазнаюцца ў бядзе. Гэту народную мудрасць нагадаў Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Мікалай Дзямянцей, уручаючы вышэйшую ўзнагароду рэспублікі — Ганаровую грамату Вярхоўнага Савета — Рабочаму саюзу міласэрнасці (РСМ) зямлі Шлезвіг-Гальштэйн (ФРГ).

Дзейнасць РСМ не выпадкова ацэнена так высока. За паўгода, якія мінулі з пачатку бязвыплатнай дапамогі пацярпеўшым ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, саюз перадаў медыкаментаў, медыцынскага абсталявання, прадуктаў харчавання з павышаным утрыманнем вітамінаў больш чым на 6 мільёнаў долараў.

Прымаючы ганаровую ўзнагароду, кіраўнік РСМ Генрых Фольштэт успомніў, што ў гады другой сусветнай вайны яго бацька з часцямі вермахта знаходзіўся на беларускай зямлі. "Сёння мне сорамна за гэта, — сказаў Генрых Фольштэт. — І я шчыра рады, што магу хоць у нейкай ступені загладзіць яго віну. Усё, што я ўбачыў у чарнобыльскай зоне, кранула мяне да слёз".

Уручаючы вышэйшую ўзнагароду рэспублікі, Мікалай Дзямянцей падкрэсліў, што сёння ўвесь беларускі народ зведвае пачуццё ўдзячнасці за спачуванне і спагаду, праяўленыя з боку Рабочага саюза міласэрнасці.

У НЕБЯСПЕЧНАЙ ЗОНЕ

## ЗЛАЧЫНСТВА ЦІ ГЛУПСТВА?

Працягваюцца вясенне-палявыя работы ў... зоне жорсткага радыяцыйнага кантролю.

Год назад жыхары Малінаўкі, што ў Чэрыкаўскім раёне, пакінулі родную вёску. А на землях саўгаса "Сцяг", палавіна ўгоддзяў якога спісана, было створана навукова-вытворчае аб'яднанне "Надзея". Цяпер на землях, якія засталіся ў абароце, вырошчваюць фуражнае зерне, узровень забруджання якога ў 2 — 3 разы перавышае гранічна дапушчальны.

На жаль, выпадак гэты не адзінкавы. Падобная інфармацыя паступае і з Гомельскай вобласці. Як доўга яшчэ мы будзем збіраць ураджаі з забруджаных угоддзяў, перапрацоўваць іх у камбікармы, а затым купляць радыеактыўныя мяса і малако ў нашых магазінах?

СУПРАЦОЎНІЦТВА

## АХОЎВАЦЬ ДУХОЎНУЮ СПАДЧЫНУ

Міністр культуры Беларускай ССР Я. Вайтовіч і міністр культуры і мастацтва Польшчы М. Раствароўскі падпісалі ў Варшаве пратакол аб намерах, якія датычаць супрацоўніцтва паміж дзвюма рэспублікамі. Перш за ўсё іх узаемадзеянне будзе накіравана на захаванне сумеснай культурнай спадчыны.

Беларусь і Польшча вырашылі стварыць сумесную фірму, якая зоймецца арганізацыяй турызму і гандлю. Прыбытак яе пойдзе на аднаўленне і рэстаўрацыю беларускіх і польскіх помнікаў культуры на тэрыторыях абедзвюх рэспублік. Заснавальнікамі фірмы стануць фонды культуры, рэстаўрацыйныя прадпрыемствы, іншыя арганізацыі, закліканыя ахоўваць духоўную і матэрыяльную спадчыну сваіх народаў.

ДАРАЖЭЕ ЎСЁ

## ТЭЛЕФОН СТАНОВІЦЦА РАСКОШАЙ

З 1 красавіка ўдвая ўзрасла абанементная плата за кватэрны тэлефон, цяпер яна складае 5 рублёў у месяц. А ўстаноўка новага апарата — 300 рублёў. У два-тры разы ўзраслі і іншыя паслугі для індывідуальных абанентаў.

Што тычыцца тарыфаў за міжгароднія размовы, то, незалежна ад адлегласці, плата за кожную мінуту размовы ўзрасла на 5 капеек. Адбыліся змены таксама ў аплаце размоў і па гарадскому таксафону: за двухкапеечную манету цяпер можна пагаварыць толькі паўтары мінуты, гэта значыць удвая менш, чым раней.

ПРЫГОДЫ

## ЗОЛАТА З КВЕТНІКА

60 грамаў чыстага золата 900-й пробы накапалі сямікласнікі Круглянскай сярэдняй школы на... клумбе.

Па ўсім відаць, тут аказалася рэштка скарбу, які быў завезены аднекуль з урадлівым грунтам. У час урока школьнікі разам з настаўніцай і тэхнічкай адкапалі 6 так званых царскіх чырвонцаў і некалькі манет меншай вартасці. Знаходку на 10 тысяч рублёў яны здалі ў міліцыю. Як і належыць па закону, узнагарода складзе 2,5 тысячы рублёў.

ЗЯМЛІ СВАЁЙ ГАСПАДАР



Сорак гектараў атрымаў у карыстанне былы работнік саўгаса "Ходцы" Сенненскага раёна Генадзь Казлоў. Самастойна гаспадарыць на зямлі два гады назад ён пачаў практычна з нуля. А сёння ў Казлова — шэсць кароў, два трактары, аднаўлены прэс-падборшчык, які саўгасныя спецыялісты ўжо "спісалі" на металалом. А галоўнае — пачаў будаваць фермер вялікі дыхтоўны дом.

Цяжка давалася ўсё спачатку. І, магчыма, не справіўся б Генадзь з клопатамі, што навалілся на яго, калі б не такія памочнікі, як жонка Нэля і старэйшы з чатырох дзяцей трынаццацігадовы Сяргей. Добрую дапамогу аказваюць і сваякі-гаражане. Ды і сам Генадзь Казлоў — майстар на ўсе рукі.

— Пакуль поўнасцю не абжыліся, не наладзілі вытворчы цыкл, — гаворыць фермер, — выкарыстоўваем любую магчымасць, каб зарабіць грошы. Вырошчваем для продажу саджанцы перспектыўных сартоў вішні, ягадных кустоў, садзім раннія сарты бульбы. Словам, праяўляем сялянскую кемлівасць, каб як мага больш трывала стаць на ногі.

НА ЗДЫМКУ: Генадзь КАЗЛОЎ з жонкай Нэляй Вячаславаўнай і сынам Сяргеем вяртаюцца з поля.

ГАРАДСКІЯ КЛОПАТЫ

## РЫХТУЮЦЦА ДА ЮБІЛЕЮ

Праз шэсць гадоў Пінск адзначыць сваё 900-годдзе. Але падрыхтоўка пачалася зараз. Вырашана паскорыць рэстаўрацыйныя работы помнікаў культуры, якіх багата ў Пінску, узнавіць эстэтычнае асяроддзе ў стылі лепшых нацыянальных традыцый, адрадзіць славутыя палескія кірмашы, аднавіць і адкрыць для экскурсій участак старажытнага падземнага ходу.

ДЭПАРТЫЗАЦЫЯ

## РАШЭННЕ КАЛЕКТЫВУ

Дэлегаты пазачарговай канферэнцыі працоўнага калектыву навукова-вытворчага аб'яднання "Гранат" 201 голасам "за" і чатырма "супраць" пастанавілі ўнесці ў статут прадпрыемства і калектыўны дагавор наступны пункт: "На тэрыторыі прадпрыемства (аб'яднання) не дазваляецца прадастаўленне на любых умовах памяшканняў, правядзенне мерапрыемстваў і ўмяшанне ў вытворчую дзейнасць усім палітычным партыям і арганізацыям".

ВОПЫТНЫ СПЕЦЫЯЛІСТ



Многа навінак увёў у работу кардыялагічнага аддзялення Брэсцкай абласной бальніцы яго загадчык Бранiслаў ЗАВАДСКІ (на здымку).

У прыватнасці, тут пачаў дзейнічаць блок інтэнсіўнай кардыялогіі, дзе за пацыентамі вядзецца пастаяннае медыцынскае назіранне.

Гэта прынясло выратаванне многім хворым.

Браніслаў Іванавіч — вопытны спецыяліст з шматгадовай практыкай. Ён працаваў галоўным тэрапеўтам Брэсцкай вобласці, працаваў у Алжыры і Нігеры. Многія афрыканцы таксама ўдзячныя беларускаму доктару за кваліфікаваную дапамогу.

ШМАТПАРТЫЙНАСЦЬ

## БСДГ — ЗАРЭГІСТРАВАНА

Міністэрства юстыцыі БССР зарэгістравала яшчэ адну партыю — Беларускую Сацыял-Дэмакратычную Грамаду. Яе асноўныя мэты — стварэнне гуманнага дэмакратычнага таварыства на аснове шматукладнай эканомікі, усталяванне прынцыпаў свабоды асобы, сацыяльнай справядлівасці і салідарнасці, адраджэнне асноў духоўнасці, дасягненне і адстойванне палітычнай незалежнасці Беларусі як раўнапраўнага члена Еўрапейскай і сусветнай супольнасцей.

НА ЛІТОЎСКА-БЕЛАРУСКАЙ ГРАНІЦЫ

## ЗАБОЙСТВЫ ТАМОЖНІКАЎ

Увечары 18 мая пры пад'ездзе да літоўскай таможні на шашы Шальчынінкай—Воранава быў забіты капітан міліцыі Воранаўскага райаддзела ўнутраных спраў Аляксандр Фелясь. Капітан ехаў на ўласнай машыне з сям'ёй і пры пад'ездзе да літоўскага таможнага паста пачуў стрэлы. Спыніўшыся, каб даведацца, што адбылося, ён выйшаў з машыны і быў забіты новымі стрэламі. Паранены таксама сын А. Феляся, які знаходзіўся ў машыне. У капітана беларускай міліцыі выяўлена 15 раненняў.

У тую ж ноч толькі на другім ужо таможным пасту быў забіты супрацоўнік літоўскага дэпартамента аховы краю Жагунас Гінтарас.

А на наступны дзень супрацоўнікі міліцыі на тэрыторыі Воранаўскага раёна сустрэлі ўзброеную групу. У затрыманых аказаўся аўтамат Калашнікава, пісталет "ТТ", пяцізараднае паляўнічае ружжо і вялікая колькасць боепрыпасаў.

Але на гэтым канфлікты не скончыліся. Невядомымі асобамі на дарозе Вільня — Ліда былі падпалены два вагончыкі літоўскага таможнага паста і дэпартамента на ахове краю. Яшчэ адзін пажар успыхнуў на пасту ў раёне г. Эйшышкес.

Прэм'ер-міністр Літвы Г. Вагнорус вядзе актыўны дыялог са Старшынёй Савета Міністраў Беларускай ССР В. Кебічам. У іх тэлефоннай размове, што адбылася ў панядзелак 20 мая, была падкрэслена рашучасць зрабіць усё магчымае, каб спыніць эскалацыю канфліктаў. В. Кебіч і Г. Вагнорус выказалі надзею, што гэтыя інцыдэнты не выклічуць міждзяржаўных рознагалоссяў.

В. Ландсбергіс выказаў упэўненасць, што Літва не будзе ўцягнута "ў традыцыйны савецкі сцэнарый, які дзейнічае ў Закаўказзі і іншых месцах".

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● Чатыры гады ўлады Бабруйска абяцалі адрамантаваць сярэднюю школу № 18, але не зрабілі нічога. Дырэктар школы В. Джафараў пайшоў на крайнюю меру — аб'явіў галадоўку. На дзесяты дзень галадоўкі дырэктар атрымаў... абяцанні паскорыць рамонт. Але работа стаіць.

● Прынята рашэнне аб скарачэнні цэнтральнага апарату міністэрстваў і ведамстваў Беларусі. Колькасць работнікаў будзе скарочана на 25,4 працэнта — на 504 чалавекі.

● Іван Шамякін, вядомы беларускі пісьменнік, Указам Прэзідэнта СССР узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў за вялікі ўклад у развіццё савецкай літаратуры і плённую грамадскую дзейнасць.

● У Зэльве на базе мясцовага вадасховішча будзе пабудавана электрастанцыя. Магутнасць ДРЭС плануецца да 2 мільёнаў кілават. Кошт будаўніцтва яе складзе каля 800 мільёнаў рублёў.

● На рахунак Беларускага фонду міру ў Светлагорску паступіла ад жыхароў горада і раёна ў 1988 годзе 145 тысяч рублёў, у 1990 — 29 тысяч, а за чатыры месяцы сёлетняга — менш 9 тысяч рублёў.

● Прадстаўнікі італьянскага турыстычнага бізнесу пабывалі ў Міёрскім раёне. Праведзены перагаворы з мясцовымі ўладамі аб стварэнні сумеснага цэнтра адпачынку і палявання ў гэтым экалагічна чыстым і прыгожым кутку Беларусі.

● Урад Беларусі выпусціў аблігацыі ўнутранай пяціпрацэнтнай пазыкі. Сродкі ад іх продажу мяркуецца накіраваць на фінансаванне праграм, якія павінны палепшыць сацыяльнае становішча жыхароў рэспублікі.

● Пераможца конкурсу "Віцебская прыгажуня-89", "Міс СССР-90" Марыя Кежа адмовілася ад удзелу ў конкурсе "Міс сусвету" ў амерыканскім горадзе Лас-Вегас. Наша "Панна Белая Русь" аддала перавагу Дзюсельдорфскаму універсітэту ў Германіі, дзе яна займаецца па асабістаму запрашэнню прэзідэнта гэтай навучальнай установы.

● Колькасць работнікаў органаў дзяржаўнага ўпраўлення ў рэспубліцы складае 37 400 чалавек. 4 211 заняты ў цэнтральным апараце міністэрстваў і ведамстваў, 8 914 — у абласных упраўленнях, 16 197 — у раённых і 8 025 — у пасялковых і сельскіх Саветах.

*ПУНКТ ПОГЛЯДУ СПЕЦЫЯЛІСТА*

# КРЫЗІС: ЯК ЯГО ПЕРААДОЛЕЦЬ?

Пра сённяшні крызіс нашай эканомікі ведаюць усе. І не толькі з газет і часопісаў. Дастаткова аднаго погляду на вітрыны і паліцы магазінаў, на чэргі, якія імгненна ўзнікаюць, калі "выкідваюць" крыху прыстойны тавар, каб меркаваць аб тым, у якім стане знаходзіцца рэспубліка.

Гэта выклікана, на наш погляд, дзвюма кардынальнымі прычынамі, а дакладней — адной прычынай з рознымі, вобразна кажучы, знакамі. Па-першае, існаваннем прынцыпова неэфектыўнай, тупіковай сістэмы кіравання эканомікай на ўсіх яе ўзроўнях — ад агульнасаюзнага да самага пярвічнага — на ўзроўні арганізацыйных структур прадпрыемстваў. Па-другое, адсутнасцю ці ліквідацыяй у працэсе апошніх рэфармацый некаторых неабходных элементаў раней створанай сістэмы кіравання.

Таму-сяму з чытачоў можа здацца дзіўным ужыванне слова "неабходных" у адносінах да крытыкуемай з усіх бакоў так званай "адміністрацыйна-каманднай сістэмы". Але тут няма агаворкі ці выпадковасці. Мы цяпер ламаем ці часта толькі спрабуем надламаць структурныя элементы сістэмы, якая дрэнна працавала (але ўсё ж працавала?!). І гэта выклікае натуральныя збоі ў больш ці менш адладжаным механізме. Хаця, вядома, гаварыць аб адладжанасці няправільна пабудаванага механізма можна толькі ўмоўна.

Што гэта за стары гаспадарчы механізм, пазіцыі якога цяпер, у якасці рэакцыі на нашы нягоды, умацоўваюцца ў розумах даволі вялікай колькасці прыхільнікаў?

Працяглы перыяд гаспадарка нашай Беларусі ў складзе агульнасаюзнага комплексу развівалася ў жорстка цэнтралізаваным рэжыме. Мы, па сутнасці справы, працавалі як адзіная "фабрыка", дзе ўсё да дробязей, да апошняга вінціка распісвалася з адзінага цэнтра. Ва ўмовах надзвычайных сітуацый (напрыклад, вайна, стыхійныя бедствы, катастрофы, праграмы рэканструкцыі і аднаўлення канца 20-х — 40-х гадоў) і на абмежаваны перыяд такі тып кіравання эфектыўны. Ён дазваляе хутка мабілізаваць буйныя рэсурсы на вырашэнне адной альбо некалькіх найважнейшых задач.

Аднак нармальным такі рэжым назваць нельга. Эканоміка, як і грамадства ў цэлым, з'яўляецца вельмі складаным арганізмам, і ўсе грані яго развіцця немагчыма дэталёва рэгуляваць з цэнтра. Як гаворыцца, усяго не ўлічыш, здалёку не ўбачыш.

Агульны прынцыповы вынік нашага развіцця ў такім рэжыме ў наяўнасці: мы значна, вельмі значна адсталі ад многіх краін свету. Маюцца на ўвазе не толькі ЗША, Японія, Англія, Францыя і іншыя перадавыя дзяржавы. Мы адсталі к сярэдзіне 80-х гадоў па многіх якасных паказчыках і, у першую чаргу, па прадукцыйнасці працы, а значыць па ўзроўню жыцця ад цэлага шэрагу краін, якія з'яўляюцца далёка не самымі перадавымі — Іспанія, Партугалія, краіны Лацінскай Амерыкі.

Параўнаўчыя лічбы ўсім цяпер добра вядомы. Ва ўмовах галоснасці ў многіх з нас адкрыліся, як гаворыцца, вочы. Хачу прывесці толькі адну ўражальную лічбу. Адзін сельскагаспадарчы работнік у ЗША вырабляе прадукцыі столькі, колькі восем—адзінаццаць нашых.

Чаму гэта так? Няўжо наш народ такі лянівы? Думаю, што не. Значыць, прычына не ў людзях, а ў сістэме кіравання.

У прыродзе і грамадстве вялікія сістэмы абавязкова маюць механізм самарэгуляцыі. У эканоміцы такім механізмам самарэгуляцыі з'яўляецца рынак. Рыначны механізм заснаваны на эканамічнай свабодзе таваравытворцаў і пакупнікоў. Інтарэсы кожнага гаспадарчага суб'екта (чалавека, прадпрыемства, аб'яднання, рэгіёна) у злучэнні з іх эканамічнай самастойнасцю якраз і даюць эфект самарэгуляцыі.

Безумоўна, свабода рыначнай эканомікі не бязмежная. Грамадства ў асобе дзяржавы і іншых сваіх інстытутаў аказвае і будзе аказваць уздзеянне на гаспадарчае развіццё. У якасці асноўных прычын такога ўздзеяння хацелася б назваць неабходнасць сацыяльнай абароны насельніцтва і, у першую чаргу, тых, хто яшчэ ці ўжо не працуе; ажыццяўленне мер па захаванню асяроддзя пражывання чалавека; забеспячэнне бяспекі дзяржавы і правапарадку; а таксама папярэджанне і ліквідацыя крызісных эканамічных сітуацый.

Гэта агульны курс. Што ж рабіць цяпер, калі наша рэспубліка і Саюз у цэлым перажываюць самы жорсткі эканамічны і палітычны крызіс?

Хочацца, перш за ўсё, звярнуць увагу на вылучаныя два бакі крызісу — эканамічны і палітычны. Між імі самая цесная сувязь.

У прыватнасці, не прадуманыя да канца эканамічныя рашэнні абвастраюць палітычныя супярэчнасці ў грамадстве. Наглядны прыклад — павышэнне рознічных цэн 2 красавіка гэтага года. У прынцыпе гэта эканамічнае пытанне. Але пры існуючай сістэме аплаты працы, наяўнасці пустых паліц магазінаў яно ўжо "вырашаецца" на мітынгах і атрымала палітычную афарбоўку.

Таму першым агульным вывадам з'яўляецца тое, што меры трэба прымаць адначасова як эканамічныя, так і палітычныя.

Яшчэ адзін агульны аспект. Выхад з эканамічнага крызісу трэба шукаць разам у маштабах усяго Саюза. Рэспублікі, якія робяць стаўку на выхад з крызісу ў адзіночку, вядуць сваю гаспадарку ў тупік.

Увесь цывілізаваны свет для вырашэння сваіх эканамічных праблем заключае пастаянныя і часовыя пагадненні. Справа ў тым, што ўсе краіны, хочуць ці не хочуць яны гэтага, утвараюць агульную эканамічную прастору і аказваюць адна на адну значнае ўздзеянне ў самых розных аспектах. Таму, вобразна кажучы, вырашаць эканамічныя праблемы ў адзіночку, ізалявана — гэта ўсё роўна, што заліваць ваду ў дзіравую бочку.

Вось некалькі лічбаў наконт гэтага. Аб'ём сукупнай грашовай масы ў краіне на пачатак бягучага года ацэньваецца прыкладна ў адзін трыльён рублёў. Паводле папярэдніх ацэнак, у Беларусі сукупная грашовая маса не перавышае 30 мільярдаў рублёў, што складае зусім нязначную долю ў параўнанні з агульнасаюзнай лічбай — усяго каля трох працэнтаў. Ці можна ў гэтай сітуацыі весці гутарку аб аздараўленні рубля толькі ў адной нашай рэспубліцы?

Са сказанага трэба зрабіць, як нам уяўляецца, яшчэ два вывады. Па-першае, антыкрызісныя мерапрыемствы павінны ажыццяўляцца ў агульнасаюзным маштабе — у рамках эканамічнага дагавора паміж рэспублікамі.

Па-другое, трэба праводзіць актыўную палітыку прыцягнення замежных інвестыцый. Бытуе адваротнае меркаванне, заснаванае на тым, што гэта палітыка ўцягнення Беларусі ў кабалу Захаду. Але давайце паглядзім вакол сябе. Увесь свет аказвае адзін аднаму дапамогу. Натуральна, яна не бясплатная. І наша задача выкарыстаць гэту дапамогу (замежныя інвестыцыі) так, каб яна дала нам важкі вынік. Вынік, які дазволіў бы не толькі выйсці з крызісу, але і расплаціцца своечасова з замежнымі пазыкамі.

Нам час па-гаспадарску распарадзіцца як замежным капіталам, што мы прыцягваем, так і ўвогуле ўсімі сваімі матэрыяльнымі і фінансавымі рэсурсамі.

Для гэтага неабходна карэнным чынам змяніць адносіны да гэтых рэсурсаў — нашаму немалому эканамічнаму патэнцыялу. Тут шлях адзін — змяніць адносіны да ўласнасці. У нас павінны з'явіцца паўнапраўныя і, у той жа час, адказныя гаспадары. Мы павінны даць ім дастатковыя правы. Аднак пры гэтым яны павінны адказваць цалкам, усёй сваёй маёмасцю за вынікі сваёй дзейнасці.

Ажыццяўленне раздзяржаўлення ўласнасці ці, як можна сказаць інакш, прыватызацыю дзяржаўных прадпрыемстваў неабходна падмацаваць антыманапольнымі мерамі, мерамі па аздараўленню фінансаў і зямельнай рэформай. Неабходных таксама рэальныя мерапрыемствы па стварэнню ўмоў для развіцця прадпрымальніцтва.

У гэтых напрамках у Беларусі трэба ажыццяўляць самыя рашучыя крокі, якія ўзгадняюцца з дзеяннямі іншых рэспублік Саюза. Вядома, звычныя адміністрацыйныя меры тут непрымальныя. У сувязі з гэтым неабходна аператыўна перагледзець ролю дзяржавы ў новай эканамічнай сітуацыі.

Дзяржава павінна адысці ад непасрэднага кіравання працэсам вытворчасці. Гэта функцыя гаспадарчых суб'ектаў, прадпрымальнікаў.

Дзяржава ж павінна забяспечваць стварэнне агульных умоў гаспадарчага развіцця, у складзе якіх, як нам уяўляецца, варта адзначыць:

— распрацоўку заканадаўчых і іншых нарматыўных актаў;

— рэалізацыю правоў уласніка дзяржаўных прадпрыемстваў — у рамках Закона аб уласнасці;

— дзяржаўную фінансава-крэдытную палітыку, накіраваную, у першую чаргу, на сацыяльную абарону насельніцтва, на падтрымку неабходных грамадству відаў дзейнасці, а таксама на забеспячэнне нармальнага працэсу грашовага абарачэння;

— вызначэнне агульнага курсу эканамічнага развіцця і гібкае рэгуляванне гаспадаркі, у асноўным фінансавымі сродкамі, — у напрамку рэалізацыі гэтага курсу.

Сёння ў рэспубліцы ўжо пачата мэтанакіраваная рэалізацыя пералічаных вышэй эканамічных мер. Падрыхтаваны і прыняты шэраг базавых законаў, неабходных для пераходу да рынку. Сярод іх законы аб уласнасці, аб прадпрыемстве, аб індэксацыі даходаў насельніцтва з улікам інфляцыі. У Вярхоўны Савет Беларускай ССР прадстаўлены праекты законаў аб акцыянерных таварыствах, аб гаспадарчых таварыствах, аб прадпрымальніцтве. Інтэнсіўна рыхтуецца рэспубліканская праграма прыватызацыі і значная колькасць спадарожнічаючых ёй нарматыўных актаў, якія павінны стварыць прававыя асновы для новага гаспадарчага механізма. Важна пасля яе прыняцця не зацягваць з практычнымі крокамі і, у прыватнасці, са стварэннем рэальнай інфраструктуры рынку.

**Аляксандр ЛАБАНАЎ,**
**кандыдат эканамічных навук.**

---

**ЦІ СПРАЎДЗІЦЦА ЭКСПЕРЫМЕНТ!**

## ДА ЎЛАДЫ ПРЫЙШЛІ РЭФАРМАТАРЫ

НЕЧАКАНЫМІ рашэннямі народных дэпутатаў Саветаў розных ступеняў сёння ўжо нікога не здзівіш у нашым надзвычай палітызаваным жыцці. Але вынікі апошняй сесіі Маладзечанскага гарсавета выклікалі хвалю размоў і спрэчак. Справа ў тым, што першым намеснікам старшыні гарвыканкома ў Маладзечне выбраны народны дэпутат Вярхоўнага Савета БССР В. Ганчар. Падзея неардынарная. Мы больш прывыклі да таго, што асобныя народныя выбраннікі вышэйшага органа ўлады рэспублікі імкнуцца хутчэй перабрацца ў Мінск на пастаяннае жыхарства. А тут факт супрацьлеглы. Нагадаем, што да выбрання дэпутатам В. Ганчар працаваў дацэнтам Мінскага інстытута народнай гаспадаркі, потым нейкі час узначальваў юрыдычны аддзел у Дзяржэканомплане БССР. Уся яго прафесійная дзейнасць была звязана са сталіцай рэспублікі. Цяпер вось новая пасада, пераезд у другі горад.

Мы пацікавіліся ў В. Ганчара матывамі пераходу на нізавую работу. Віктар Іосіфавіч сказаў, што да кіраўніцтва горадам увогуле прыйшла каманда новых людзей. Так, у прыватнасці, старшынёй гарсавета выбраны Г. Карпенка, які пакінуў у Мінску відную пасаду старшыні Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета БССР па навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу.

Мэта новай каманды — ажыццявіць навукова-абгрунтаваны сацыяльна-эканамічны эксперымент па стварэнню ў горадзе рыначных адносін, уласцівай рыначнай інфраструктуры, прыцягнуць капіталы замежных фірм і г. д. Карацей, намечана вялікая і сур'ёзная работа па радыкальнаму рэфармаванню эканомікі ў асобна ўзятым горадзе. В. Ганчар адзначыў, што ёсць дамоўленасць з урадам рэспублікі аб падтрымцы гэтага эксперымента.

Дарэчы, Г. Карпенка ў Маладзечне — чалавек вядомы. Да выбрання дэпутатам ён тут працаваў дырэктарам завода парашковай металургіі.

**Л. ТУГАРЫН.**

---

# ГРЫБЫ... У ПАДВАЛЕ



**Удала прыстасавалі падвал, што раней пуставаў, работнікі Калінкавіцкага мясакамбіната. Тут вырошчваюць грыбы. Першы ўраджай — 130 кілаграмаў вешанак — быў зняты напярэдадні Новага года. Цяпер жа грыбы пастаянна ў меню сталовай камбіната. Хто жадае, можа купіць іх да хатняга стала.**

**Зараз вядуцца работы па добраўпарадкаванню яшчэ аднаго падвальнага памяшкання. Па дамоўленасці з Беларускім навукова-даследчым інстытутам лясной гаспадаркі вучоныя дапамогуць прадпрыемству з пасадачным матэрыялам.**

**НА ЗДЫМКАХ: вось такія грыбы вырошчваюць на камбінаце; новая вытворчасць даверана начальніку тэхнічнага аддзела камбіната Галіне КОХАН.**

**Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА.**



*З БЕЛАРУСКАГА НАДДЗВІННЯ Ў ЛАТВІІ*

# ЗНАЁМЦЕСЯ: ПІСЬМЕННІК ВІКТАР ВАЛЬТАР



Плынь гісторыі не толькі хавае ў сваіх вірах здабыткі людскіх здзяйсненняў, але й выносіць з бяспамяцтва на Божы свет знямелае і замардаванае ледаходамі Слова. На гэты раз пашчасціла Віктару Вальтару — яшчэ аднаму гаротніку беларускай культурнай нівы: знойдзены яго рукапіс. Выходзіць з небыцця Слова, Праца, Існасць яшчэ адной ахвяры беларускай нацыі, яшчэ аднаго сухотніка з доляю, падобнай да Максіма Багдановіча.

Хто ж з падсуднай лавы забыцця перасядае на ганаровую лаву ў куце беларускага пісьменства? Віктар Бенядзіктавіч Вальтар нарадзіўся 15 (28) ліпеня 1902 года ў Дзвінску (цяпер Даўгаўпілс), у сям'і краўца. Першая сусветная вайна зрабіла яго бацькоў бежанцамі. Спачатку В. Вальтар вучыўся ў Харкаўскім рэальным вучылішчы, а па вяртанні дадому ў 1921 годзе — у сярэдняй школе. У жніўні 1922 года заканчвае Беларускія дзяржаўныя аднагадовыя настаўніцкія курсы, а восенню — як стыпендыят чэшскага ўраду — трапляе ў Прагу, паступае вучыцца на каморніцкі факультэт Чэшскага вышэйшага тэхнікума. Але праз тры гады вяртаецца з Чэха-Славаччыны, не закончыўшы вучобы, бо захварэў на сухоты.

З 1926 года аж па дзень смерці Віктар Вальтар працаваў у беларускіх школах Латвіі. Настаўнік з Даўгаўпілса А. Барткевіч сведчыў: "У 1931 годзе 20 сакавіка ён (В. Вальтар) захварэў на запаленне нырак. Нягледзячы на цяжкую хваробу, ён не кідаў працы ў школе. У працягу трох дзён ён ня мог зьняць боты, бо распухлі ногі, аднак у школу хадзіць ён ня кінуў, і толькі 2-га красавіка адважыўся ён выехаць са школы ў Дзвінск, дзе зараз жа адвязлі яго ў бальніцу Чырвонага Крыжа". Гэтую цытату я ўзяў з прадмовы да апавядання В. Вальтара "Лясьнікова сена", якое было выдадзена ў Рызе "Беларускім выдавецтвам у Латвіі" ў 1932 годзе, да гадавіны яго смерці (В. Вальтар памёр 4 красавіка 1931 года). Па сённяшні дзень, дзякаваць Богу, жыве ў Даўгаўпілсе беларускі настаўнік Аляксей Міхайлавіч Барткевіч. Вось што ён мне паведаміў: "Віктара Вальтара я добра ведаю, бо ён працаваў у Даўгаўпілскай беларускай школе, кіраўніком якой быў я. Ён выкладаў беларускую мову. Быў добрым настаўнікам і добрым сябрам. Я прымаў удзел у яго пахаванні на каталіцкіх могілках разам з настаўнікамі і вучнямі беларускай гімназіі. З прамовай выступіў С. Сахараў. І хаця бацька В. Вальтара быў чалавекам рэлігійным, ксёндз адмовіўся пахаваць яго сына, спасылаючыся, што нябожчык не хадзіў да споведзі. Ну, пахавалі без ксяндза, што вельмі засмуціла бацьку Віктара Вальтара. Магілку знайсці не змагу: запамятаваў, стары. З раднёй Вальтара не знаёмы..."

Што ж яшчэ можна сказаць пра пісьменніка? Друкавацца Віктар Вальтар пачаў у 1925 годзе ў газеце "Голас Беларуса". У Рызе ў 1926 годзе выйшаў зборнік вершаў гуртка маладых беларускіх паэтаў у Латвіі пад назвай "Першы крок", дзе ёсць верш і В. Вальтара. Наступная асобная публікацыя — ужо згаданае апавяданне "Лясьнікова сена". Друкаваўся ён і пад псеўданімам Янка Палын.

У рамане "Роджаныя пад Сатурнам" В. Вальтар апісвае жыццё беларускай эміграцыі і студэнцтва ў Празе. Твор аўтабіяграфічны. Часопіс "Беларуская школа ў Латвіі" ў пятым нумары за 1932 год паведамляў, што ў Латвіі рыхтуецца выданне рамана, і запрашаў яго падтрымаць: "Адзін пай каштуе 20 лат." Але, відаць, сродкаў не знайшлося. Рукапіс рамана быў перапісаны ад рукі вучнямі гімназіі і разасланы ў галоўныя бібліятэкі. Адзін паасобнік трапіў у Вільню. Дзякуючы Адаму Мальдзісу, мікрафільм рукапісу нядаўна атрымала акадэмічная бібліятэка ў Мінску. Сапраўды: напісанае — застаецца...

Асабіста мне каля чатырох гадоў давялося жыць у Чэха-Славаччыне. І хоць гэта здарылася праз 45 гадоў пасля вучобы там Віктара Вальтара, са старонак рамана мне "праяўлялася" ўся тая ж чэшская сталіца, дзе, здаецца, можна было адчуць крокі Уладзіміра Жылкі, Ігната Дварчаніна, Ларысы Геніюш, Міхала Забэйды-Суміцкага, Віктара Вальтара і соцень іншых слаўных маіх землякоў, чый жыццёвы лёс быў знітаваны з адвечна гасціннай для беларусаў Прагай. Таму вяртанне з небыцця рамана "Роджаныя пад Сатурнам" — не толькі кампенсацыя страт нашай чвартаванай літаратуры, не толькі акт справядлівасці да спадчыны незаслужана забытага пісьменніка, але і вяртанне скарынаўскага доўгу залатой Празе-карміцельцы, яшчэ адна ўдзячнасць чэхам — нашым пабрацімам і яшчэ адна спроба ўзнаўлення горкага лёсу беларускай эміграцыі, у даным выпадку — яе сапраўды залатога пражскага культурнага слою. І таму так хочацца ціха прамовіць з гэтай нагоды: "А жыве ж, жыве Беларусь — маленькая планета людзей, у тым ліку і роджаных пад Сатурнам".

**Сяргей ПАНІЗНІК,**
**раднік Аб'яднання сяброў чэшскай і славацкай культуры імя М. Забэйды-Суміцкага.**

*ПРАЗ 50 ГОД ПАСЛЯ ВАЙНЫ*





**У Віцебск сабраліся пошукавыя атрады не толькі з розных гарадоў Беларусі, але і з Масквы, Кіева, Львова, Запарожжа, Смаленска, Свярдлоўска, Краснаярска. Яны праходзяць па месцах былых баёў, вядуць пошук стыхійных і невядомых пахаванняў часоў Вялікай Айчыннай вайны, спадзяюцца вярнуць новыя імёны загінуўшых за Радзіму. Фіналам стане ўрачыстае перапахаванне астанкаў воінаў і партызан на воінскіх могілках у вёсцы Арлова.**
**НА ЗДЫМКАХ: урачыстае адкрыццё ўсесаюзнай Вахты памяці-91 на плошчы Перамогі ў Віцебску; члены атрада "Пошук" Віцебскага прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 19 вядуць раскопкі траншэі каля вёскі Шаркі.**

**Фота А. ЦАРЛЮКЕВІЧА.**

**ПАДПІСАНА МІЖУРАДАВАЕ ПАГАДНЕННЕ**

# ГАНДАЛЬ РАСШЫРАЕЦЦА

Першае ў гісторыі адносін дзвюх рэспублік міжурадавае пагадненне аб гандлёва-эканамічным і навукова-тэхнічным супрацоўніцтве падпісана прадстаўнікамі Беларусі і Чэха-Славакіі ў замку Збраслаў непадалёку ад Прагі. Адначасова ўступіў у сілу і пратакол аб узаемных пастаўках тавараў і аказанні паслуг на астатні перыяд 1991 года.

Падпісанне пагаднення стала рашучым крокам да пераадолення паралічу, які ахапіў савецка-чэха-славацкі гандаль у першыя месяцы гэтага года ў сувязі з пераходам да разлікаў між краінамі ў свабодна канверсуемай валюце па сусветных цэнах. Пагадненне, канстатуючы справядлівасць такога парадку, дазваляе, тым не менш, пазбегнуць абодвум бакам аплаты ў валюце кожнай асобна ўзятай здзелкі. Закупка тавараў і аказанне паслуг будуць ажыццяўляцца па папярэдніх узгодненых індыкатыўных спісах. Так, да канца гэтага года Беларусь і Чэха-Славакія абмяняюцца таварамі агульным коштам 140 мільёнаў долараў — па 70 мільёнаў з кожнага боку.

Сумы для пачатку даволі важкія. Беларусь атрымае з суседняй краіны абутак, адзенне, тканіны, 5 аўтобусаў і 22 трамваі, 100 пральняў - салонаў самаабслугоўвання. Яна закупіла таксама разнастайнае тэхналагічнае абсталяванне, у значнай частцы прызначанае для вытворчасці тавараў спажывання. У адваротны бок праз мяжу праедуць 5 тысяч тэлевізараў, драўнянавалакністыя і драўнянастружкавыя пліты, сталовыя прыборы і кухонныя нажы, крухмал, вымяральныя прыборы і вуглевалакністыя валокны і г. д.

— Пагадненне стала заканамерным вынікам развіцця прамых сувязей паміж нашымі рэспублікамі, — гаворыць гандлёвы прадстаўнік ЧСФР у Мінску пан Ёзеф Гласны. — Ім адкрываюцца далейшыя перспектывы для расшырэння супрацоўніцтва. Народнагаспадарчыя комплексы Чэха-Славакіі і Беларусі могуць з вялікай узаемнай карысцю дапаўняць адзін аднаго. Гутарка не толькі аб прамым абмене таварамі, але і аб стварэнні вытворча-тэхнічнай кааперацыі, стварэнні сумесных прадпрыемстваў і г. д. Гэта, дарэчы, і прадугледжана міжурадавым пагадненнем. Чакаецца, што ў бліжэйшыя дні будзе падпісана, у яго развіццё, пагадненне паміж шэрагам беларускіх і чэха-славацкіх прадпрыемстваў аб стварэнні сумеснай вытворчасці і перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі.

І яшчэ аб перспектывах. Пагадненне паміж Беларуссю і Чэха-Славакіяй — бестэрміновае, яно прадугледжвае, што кожны год будуць сумесна зацвярджацца індыкатыўныя спісы тавараабмену. Прычым агаворана і магчымасць гандлю звыш гэтага. Так, ужо цяпер чэха-славацкі бок гатовы дадаткова прадаць тавары 128 назваў на многія сотні мільёнаў долараў. Беларускія спецыялісты рыхтуюць сустрэчны спіс.

Такое ўваходжанне Беларусі ў сусветнае гандлёва-эканамічнае супольніцтва. Апрача пагаднення з ЧСФР днямі падобны дакумент падпісаны з Паўночнай Карэяй, на чарзе — дагаворы з Польшчай, іншымі далёкімі і блізкімі краінамі.

**У. БІБІКАЎ.**

## СЛАВЯНСКІЯ АСПЕКТЫ ВІЛЕНСКАЙ КАТАСТРОФЫ

# III. ЛЁГКАЯ ЗДАБЫЧА

Працяг.
Пачатак у № 20, 21.

### АЗАРТНЫЯ ГУЛЬНІ

Вядома, што Вільня і Віленшчына з даўніх часоў (больш за 700 гадоў) была заселена славянскім племенем крывічоў (продкамі сучасных беларусаў). У летапісах упамінаецца і ранняя назва горада — Крывы горад. У нямецкай хроніцы XIV стагоддзя Вігант Марбургскі ўпамінае рускі горад Вільню.

Да пачатку XX стагоддзя, згодна перапісу 1897 года, у Віленскім краі пражывала 65 працэнтаў славян (57 працэнтаў беларусаў, 8 працэнтаў палякаў) і 17 працэнтаў літоўцаў. Прычым сканцэнтроўваліся літоўцы ў асноўным у паветах, што прымыкалі да этнічнай Літвы. На астатняй тэрыторыі краю і ў горадзе Вільні іх колькасць не перавышала аднаго працэнта. Тым не менш перадваенныя ўлады буржуазнай Літвы, пачынаючы з 20-х гадоў, неаднаразова выступалі за далучэнне Віленшчыны і Гродзеншчыны да Літвы. Гэта па сутнасці справы "дыпламатычная агрэсія" стала асноўнай задачай знешняй палітыкі Літвы.

Акалічнасці, што прымусілі ўрад Літвы актыўна ставіць пытанне аб расшырэнні тэрыторыі за кошт далучэння суседніх славянскіх земляў, былі звязаны з няўстойлівым становішчам, якое склалася ў гэтым рэгіёне пасля працяглага перыяду ваенных акцый 1914—1920 гадоў. Неаднаразовая змена дзяржаўных межаў завяршылася к 1920 году замацаваннем за Польшчай заходнебеларускіх земляў (уключаючы Вільню). Гэта з'явілася, з аднаго боку, як бы завяршэннем, а з другога — дадатковым пацвярджэннем тэзіса, які доўгі час прапагандаваўся (у Польшчы і на міжнароднай арэне) польскімі патрыётамі аб сваіх спрадвечных і законных правах на ўсходнія землі былой федэрацыі (ВКЛ з Польшчай) — Рэчы Паспалітай. Надзвычайную жывучасць праяўляе імперскі сіндром у грамадскай свядомасці, аб чым сведчаць не толькі прыклады з палітычнага жыцця пачатку XX стагоддзя, але і больш сучасныя выказванні.

Аднак заснаваны на "гістарычным" праве ўладання "Усходняй Польшчай" (заходняй Беларуссю) аптымізм польскіх палітыкаў адносна непарушнасці новых, "справядлівых" усходніх межаў Польшчы вызначаецца не чым іншым, як нацыянальнай палітычнай кампаніяй і дыпламатычнай гульнёй з мэтай выдаць жадаемае за сапраўднае. Усё гэта мела вялікі прапагандысцкі эфект унутры Польшчы, аказаўшы ўплыў на погляды і ўяўленні многіх пакаленняў палякаў.

Казырнай картай, што разыгрывалася польскім бокам у гэтай кампаніі, сталі "польскія" гарады ў Заходняй Беларусі: Вільня, Гродна і г. д. (гістарычныя ўмовы апалячвання і русіфікацыі гарадоў мы разглядалі раней). "Небеларускасць" гарадоў, размешчаных на землях, заселеных пераважна беларусамі, і адыграла ў XX стагоддзі ракавую ролю, асабліва ў лёсе Вільні. Гэты ж козыр, але цяпер супраць Польшчы выкарыстала Літва ў сваёй дыпламатычнай гульні з Расіяй і Германіяй.

Еўрапейскія палітыкі і дыпламаты (як, зрэшты, і польскія, нягледзячы на шавіністычную кампанію ўнутры краіны) не маглі не разумець часовага і акупацыйнага характару валодання Польшчай землямі, заселенымі пераважна беларусамі. Лепш за іншых, з-за агульнасці гістарычнага лёсу і суседства, разумелі кволасць новых межаў Польшчы літоўскія ўлады. Даныя аб нацыянальным складзе насельніцтва Заходняй Беларусі і Віленшчыны, як і аб'ектыўныя гістарычныя факты, з'яўляліся больш пераканаўчымі аргументамі, чым патрыятычныя выступленні публіцыстаў, сенатараў і прадстаўнікоў урада Польшчы.

У адрозненне ад Польшчы і Расіі, якія спрачаліся за зямлю на полі бою, Літва падобных "аргументаў" не мела і сканцэнтравала ўсе свае намаганні на палітычнай арэне і ідэалагічнай апрацоўцы грамадскай думкі ў сваёй краіне і за мяжой.

Барацьба гэтая ішла супраць польскага "гістарычнага" права ўладання "Усходняй Польшчай" і фактычна супраць польскай трактоўкі гісторыі, паколькі не гучаў ні ў СССР, ні тым больш за мяжой беларускі голас, задушаны таталітарным рэжымам.

У антыпольскую кампанію ў буржуазнай Літве ўключаліся палітыкі і публіцысты, пісьменнікі і гісторыкі, журналісты і настаўнікі, скарыстоўваючы для абгрунтавання "гістарычнага" права на ўладанні Вільняй і Гроднам (і землямі) гістарычныя міфы (аб іх мы пісалі раней), карты 600-гадовай даўнасці (Літва Міндоўга) і больш познія — Вялікая Літва і г. д.

Маштабы, сродкі і метады, што выкарыстоўваліся для апрацоўкі грамадскай думкі, цалкам упісваліся ў атмасферу палітыка-ідэалагічнага псіхозу, характэрную для многіх краін у 20—40-х гадах XX стагоддзя. Гэта з'явілася вынікам працяглай вайны ў Еўропе (з "узаконенымі" масавымі забойствамі), што не магло не падарваць асновы грамадскай і палітычнай маралі, у выніку чаго хлусня, фальсіфікаваныя міфы і прымітыўныя ідэалагічныя догмы ператвараюцца ў асноўную зброю ў палітычнай і дыпламатычнай барацьбе ў інтарэсах краіны, партыі і нацыі.

Можна ўявіць, што ліквідацыя ў перыяд вайны маральнай і юрыдычнай адказнасці (зыходзячы з нацыянальных інтарэсаў) за забойствы і разбурэнні выклікала маральную дэградацыю і ў галіне грамадскай думкі, стварыўшы спрыяльныя ўмовы для абсалютызацыі міфаў, фальсіфікацыі і хлусні.

Трымаючыся вызначэння Бярдзяева, што "антыхрыст заснаваны на змяшэнні і падмене" (адкрытая хлусня не так небяспечная!), нельга не прызнаць, што ў 20—40-х гадах падобная чартаўшчына захліснула не толькі першую атэістычную дзяржаву, але і богашануючую Германію...

Не дзіўна, што ў гэты "спрыяльны" перыяд на хвалі антыпольскай барацьбы за Вільню гістарычныя міфы, заснаваныя на "змяшэнні і падмене", у буржуазнай Літве набываюць статус навуковай ісціны і становяцца фактам грамадскай думкі, фарміруючы не толькі сістэму поглядаў, але і вызначаючы стыль палітычных паводзін (у чым можна пераканацца з аналізу сучаснай палітыкі).

(Даследаванне палітычнага менталітэту народа, які фарміруецца ў падобных умовах, мае вельмі важную праблему, што выходзіць за рамкі гэтага артыкула).

Аднак лёс Вільні вырашаўся не ў Літве. Таму бура ўнутры літоўскага грамадства так бы і засталася бурай у шклянцы вады, не прадстаўляючы для рэальнай палітыкі і дыпламатыі істотных контраргументаў — у адказ на захоп Польшчай Віленшчыны, калі б не ўсё тая ж казырная карта, да якой звярнуліся цяпер ужо літоўскія ўлады.

Не апасаючыся адпору з паўднёвага ўсходу ( з Мінска), яны сканцэнтравалі свае намаганні на маскоўскім і варшаўскім напрамках.

Для адбіцця польскіх тэрытарыяльных прэтэнзій на землі Заходняй Беларусі (уключаючы размешчаныя тут гарады), не патрабавалася нават паглыбляцца ў гісторыю. Дастаткова было ўказаць, што на землі, якія ўваходзяць у ВКЛ, ніколі не было значнай міграцыі польскага насельніцтва (хутчэй, наадварот — у Польшчу).

У выніку падобнай ліквідацыі польскасці з усёй тэрыторыі ўяўлялася пазбаўленай падстаў польскасць размешчаных на гэтых землях гарадоў. Цяпер ужо ў перагаворах на двух франтах — з Германіяй і Масквой (1918—1921 гады) можна было настойваць на перадачы (ці толькі на прызнанні правоў) няпольскага і "небеларускага" (не запатрабаванага беларусамі) горада Вільні, Гродна і інш. — Літве на падставе гістарычных міфаў і карты 600-гадовай даўнасці.

### "НАМ НЕТ ПРЕГРАД..." ЦІ ГІПЕР-ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ

Напісаўшы гэты загаловак, я задумаўся і дадаў узмацняючую ступень — ГІПЕР. Але абумоўлена яна не варожасцю паміж славянамі і літоўцамі. На працягу стагоддзяў склаліся спакойныя і дружалюбныя адносіны, што вызначалася і агульным гістарычным лёсам роднасных народаў, і ўзаемапранікненнем культур. Захавалася ў народах узаемная павага і цярпімасць, насуперак антыславянскім кампаніям 20—40-х гадоў і нягледзячы на 50-гадовую палітыку гвалтоўнай дэславянізацыі горада Вільні.

Таму дабаўка "гіпер" — гэта даніна пачатковаму перыяду "асваення" Вільні і Віленшчыны, што праходзіла ва ўмовах таталітарнага рэжыму. Для таталітарызму няма перашкод пры рэалізацыі планаў як па перабудове і разбурэнню прыроды ці этнасаў, так і па перамяшчэнню народаў і знішчэнню культур. Усё "ажыццяўлялася", падпарадкоўваючыся бязмежнаму самавольству і насіллю.

Гэты змрочны перыяд гісторыі апісаны ўдзельнікамі і відавочцамі (віленцамі) у кнігах, выдадзеных у Польшчы і ЗША. Не маючы магчымасці дэталёва асвятліць гэтую тэму, я выстаўляю, як свечку да іконы, пяць літар ГІПЕР у памяць не толькі віленцаў 40—50 гадоў, стаўшых ахвярамі тэрору, але і ў памяць аб скораных у сваім горадзе, хто пакорліва і горка назіраў за паступовай і непазбежнай дэславянізацыяй ранейшай славянскай святыні — гордай і адухоўленай Вільні. За 50 гадоў дасягнута амаль поўнае выцясненне славян з большасці сфер прэстыжнай дзейнасці і ў першую чаргу палітычнай, культурнай, сфер вышэйшай адукацыі і навукі.

Адной з "мяккіх" праяў палітыкі дыскрымінацыі стала татальная літуанізацыя спрадвеку славянскіх гарадскіх назваў і нелітоўскіх прозвішчаў. Гэтыя дзеянні аналагічныя праводзімым раней гвалтоўным балгарызацыі туркаў у Балгарыі і германізацыі лужыцкіх сербаў у ГДР.

Палітыка дыскрымінацыі нелітоўскага насельніцтва, пачатая даваеннымі ўладамі, прадоўжаная ўладамі, якія цесна супрацоўнічалі з фашысцкай Германіяй, і ўладамі Савецкай Літвы, праводзіцца цяперашнімі дэмакратамі больш асцярожна. (Таму што за 50 гадоў была вырашана асноўная задача — па літуанізацыі Вільні).

Такая пераемнасць не выпадковая. Яна вызначана тым, што ўтрыманне славянскіх земляў (дараваных Гітлерам — Сталіным) магло быць ажыццёўлена толькі пры ўмове планамернага аслаблення, разбурэння і дэградацыі карэннага насельніцтва Вільні і Віленшчыны. Што і было дасягнута ў значнай ступені к 80-м гадам. І гэтая палітыка будзе працягвацца, нягледзячы на змену ўлад і праграмныя абяцанні аб правах народаў, да таго часу, пакуль славяне Віленшчыны не ператворацца ў руска(польска)моўнае насельніцтва, якое забылася пра сваю гісторыю, свае карані і свае спрадвечныя правы на Вільню і Віленскі край з яго слаўным гістарычным мінулым, культурай і традыцыямі, архітэктурнымі помнікамі і рэлігійнымі святынямі, — касцёламі і цэрквамі, сярэдневяковымі ансамблямі, плошчамі і скверамі. Тады ўжо ім, хто ідзе на любыя ўступкі і згодны на любыя ўмовы, можна без апасення прадаставіць месца ў культурна-нацыянальнай рэзервацыі новага тыпу.

Славянскае насельніцтва Віленшчыны вырабляе каля 10 працэнтаў нацыянальнага даходу Літвы і толькі ў нязначнай ступені карыстаецца ім. Віленшчына па сутнасці справы пазбаўлена капіталаўкладанняў на культуру. Чыняцца перашкоды да атрымання адукацыі ў вышэйшых навучальных установах Літвы, заблакіраваны доступ да вышэйшых адміністрацыйных пасад. У касцёлах славянскіх парафій святая меса, літургія і пропаведзі вядуцца ксяндзамі на літоўскай мове.

Апошнім часам літоўскія ўлады пачалі падзел прышэльцамі з Літвы земляў на Віленшчыне, прадугледжваючы ў перспектыве дабіцца літуанізацыі не толькі Вільні, але і краю. З мэтай растварэння славянскага насельніцтва Віленшчыны яно адміністрацыйна падзелена на шэсць раёнаў з уключэннем у іх этнічных тэрыторый Літвы для стварэння за кошт гэтага ў шэрагу раёнаў перавагі літоўскага насельніцтва. З гэтай мэтай праводзіцца змяненне межаў раёнаў і літуанізацыя славянскіх назваў пасёлкаў і вёсак, якія стагоддзямі ўжываліся карэннымі жыхарамі.

Мэце разбаўлення славянскага насельніцтва Віленшчыны (як вынікае з неаднаразовых выступленняў В. Ландсбергіса) павінна служыць адміністрацыйнае дзяленне Літвы. Ва ўрадавым выданні "Віряусібес жынес" публікуецца праект, згодна якому Віленшчына павінна быць падзелена на 4 раёны: Тракай, Алітус, Швенчоніс і Вільнюс. Да горада з вялікім адміністрацыйным апаратам з літоўскіх перасяленцаў далучаецца зона ў радыусе 30 кіламетраў. Астатнія раёны Віленшчыны падключаюцца да земляў этнічнай Літвы. Гэта дазволіць пазбавіць славянскае насельніцтва апошніх рэштак права — права на прадстаўніцтва.

Прапаноўваюцца грандыёзныя планы пераўтварэння не толькі сваіх, але і суседніх земляў: Калінінградская вобласць — пераходзіць да ФРГ, што дазволіць Літве мець агульную мяжу з Германіяй і выйсці на еўрапейскую арэну, атрымліваючы выгаду з бафернага становішча паміж Германіяй і Расіяй.

Але ў 30—40-х гадах Віленшчыне ў выпадку яе адыходу ад Заходняй Беларусі і Польшчы літоўскія ўлады гарантавалі статус аўтаноміі. Як сведчаць наступныя падзеі, гэтае абяцанне было толькі тактычным манёўрам, вымушаным і часовым адыходам ад генеральнай лініі, што не трэба забываць сучасным славянскім палітыкам на Віленшчыне. Паколькі і ў наш час ужо пад уздзеяннем іншых акалічнасцей — канфрантацыі з СССР і з рускамоўным насельніцтвам Літвы новае кіраўніцтва спрабуе ўзмацніць свае пазіцыі ў барацьбе з галоўным праціўнікам (Масквой) за кошт змякчэння палітыкі дыскрымінацыі карэннага (славянскага) насельніцтва Віленшчыны.

Віленшчына ў XX стагоддзі ператварылася ў гіганцкі палігон для правядзення эксперыментаў па этнагенацыду.

Мы ўжо гаварылі аб нацыянальнай палітыцы, пачатай Ю. Пілсудскім у перадваеннай Заходняй Беларусі і яе паспяховым завяршэнні — нараджэннем "новага польскага этнасу" ў пасляваеннай Літве. У выніку гэтай "унутрыславянскай метамарфозы" адбылася кансалідацыя славянскага насельніцтва Вільні і Віленшчыны на падставе прыхільнасці да польскай ідэі. Гэта для ўлад Літвы не без падстаў прадстаўлялася больш небяспечным, чым вельмі зручная палітычная індэферэнтнасць тутэйшых і беларусаў, абумоўленая глыбокім духоўным крызісам, у якім аказаўся ў XX стагоддзі беларускі народ. Палітычнае абуджэнне славян заахвоціла літоўскіх вучоных і палітыкаў больш грунтоўна даследаваць новы этнас. У шэрагу артыкулаў канстатуецца, што міграцыя палякаў на Віленшчыне была нязначнай і што яны (многія з іх) былі дэпартаваны і загінулі ў 1940—1950 гадах, а тыя, хто застаўся пасля вайны, разам з сотнямі тысяч тутэйшых добраахвотна перасяліліся ў Польшчу. Таму новы польскі этнас Віленшчыны ў асноўным выйшаў з беларускамоўных тутэйшых. Гэтым, на нашу думку, і тлумачыцца слабае распаўсюджанне сярод іх польскай мовы і тэндэнцыі да пераходу хутчэй на рускую мову, чым на польскую. Робяцца шматабяцаючыя спробы славянскі этнас Віленшчыны разбіць (В. Марцінкенас "Тутэйшыя жыхары Вільні і яе наваколляў") на дзве народнасці: тутэйшыя і "вічы". "Вічы" — гэта людзі, чые прозвішчы заканчваюцца на "віч" (маюць суфіксы -іч- ці -овіч-). З дапамогай лінгвістычных сродкаў маюць намер выдзеліць і персаніфікаваць... балцкі субстрат з тутэйшага беларускага насельніцтва.

Вядома, што характэрныя для беларускіх прозвішчаў утвараючыя фарманты (суфіксы)-іч-, -овіч-, -евіч-, -ік-, -ок-, -ій-, -оў-, -ка- вызначаюцца ў першую чаргу лінгвістычнымі нормамі, уласцівымі славянскім мовам і беларускай, у прыватнасці. Пры дапамозе іх звычайна ўтвараюцца прозвішчы ад імені бацькі: Іваноў (сын Івана), Барысевіч (сын Барыса), Міцянок, Міцкевіч (сын Міці) і г. д. Прозвішчы на -іч-, -овіч-, -евіч- характэрны не толькі для беларусаў, але і шырока распаўсюджаны ў сербаў.

Маюцца і некаторыя ўнутрыславянскія адрозненні. У прыватнасці, распаўсюджаная форма беларускіх прозвішчаў з суфіксамі -іч-, -овіч-, -евіч-: Стакевіч, Міцкевіч, Матусевіч і г. д. — супярэчыць лінгвістычным нормам польскай мовы, у якой першапачаткова выкарыстоўваліся суфіксы -іц-, -овіц-, -евіц-, -віц-. З'яўленне ж у XVII—XX стагоддзях польскіх прозвішчаў на "віч" абумоўлена ў асноўным апалячваннем беларускага насельніцтва, якое перанесла такім чынам свае не зусім карэктныя прозвішчы ў чужое лінгвістычнае асяроддзе.

**Віктар СІЎЧЫК.**

# АПАНТАНАСЦЬ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

— Зараз у Літве жывуць людзі многіх нацыянальнасцей, — разважаў Лявон Антонавіч, — але найбольш выдзяляюцца чатыры: карэннае насельніцтва — летувісы і беларусы, прышэльцы — рускія і палякі. Калі апошнія дзве вельмі агрэсіўныя, то беларусы бяспраўныя. І ніхто іх не абараняе: ні ваша таварыства "Радзіма", ні тая ж "Бацькаўшчына". Усе толькі спачуваюць, але мы не адчуваем, што нехта за намі стаіць.

На працягу апошніх 45 гадоў у Літве было вынішчана ўсё беларускае, закрыты беларускі музей, беларускія школы і гімназіі, перасталі існаваць грамадскія аб'яднанні.

— Гавораць, што царскі час быў жорсткім, — усміхаецца мой субяседнік, — але выходзілі "Наша доля" і "Наша ніва", існаваў у Вільні беларускі тэатр. Нават у 1916 — 17 гадах, пры немцах, адкрываліся беларускія школы. Літоўская буржуазная тарыба выдзеліла ў Базыльянскіх мурах памяшканне для беларускай гімназіі. "Злоўрэдныя" палякі-пілсудчыкі не здолелі закрыць беларускі музей. А вось самая гуманная ўлада вынішчыла ўсё.

Сёння, дзякуй Богу, з'яўляюцца новыя падыходы і быццам бы нешта кранаецца ў лепшы бок. Некалькі гадоў назад утварыліся першыя беларускія аб'яднанні і суполкі, дзе паціху пачынае бруіцца нацыянальнае жыццё, гучыць наша мова, задавальняюцца культурныя патрэбы. Лявон Луцкевіч — член "Сябрыны". Таварыства ўзнікла, можна сказаць, дзякуючы паважанай Зосьцы Верас. Яе маленькая лясная хатка, быццам магніт, прыцягвала свядомых беларусаў і ў Літве, і з Беларусі. Тут прыкладна ў 10-ці найбольш пастаянных наведвальнікаў і ўзнікла думка стварыць і зарэгістраваць "Клюб аматараў беларускай народнай творчасці". Яго члены арганізуюць юбілеі, канцэрты, сустрэчы, запрашаюць вучоных, пісьменнікаў, спевакоў. У лістападзе мінулага года беларускімі суполкамі ў Вільні шырока адзначалася 500-годдзе з дня нараджэння Францыска Скарыны. Адно з мерапрыемстваў свята закончылася банкетам у рэстаране "Паланга", які месціцца ў будынку гістарычным. Ранейшы адрас дома — Віленская, 33. З 1914 да 1921 года тут зберагаліся калекцыі будучага музея, знаходзілася знаная біблітэка-чытальня Барыса Даніловіча. Гэты дом быў апошнім месцам, дзе жыў, адкуль выехаў на лячэнне і больш не вярнуўся Іван Луцкевіч.

— Усё, што да гэтага часу даводзілася чытаць пра Івана Луцкевіча, вельмі навукова і афіцыйна. Самі вы, Лявон Антонавіч, дзядзьку помніць не можаце, але, мабыць, існуюць нейкія сямейныя гісторыі, бацька напэўна нешта расказваў пра брата. Хацелася б уявіць гэтага чалавека ў звычайных жыццёвых варунках, зразумець, што было галоўным у яго характары і ўчынках.

— Адкажу вам з дапамогай Юльяны Вітан-Дубейкаўскай. Сам з цікавасцю чытаю гэты тоўсты рукапіс і цешуся, што дачакаецца і ён свайго часу і будзе апублікаваны. Успаміны носяць крышку асабісты характар, бо Юлія была па сутнасці нявестай Івана. На фоне ўспамінаў пра сяброўства з Іванам Луцкевічам жанчына здолела паказаць атмасферу Вільні напярэдадні Першай сусветнай вайны і Вільні ваеннай. Дубейкаўская была стопрацэнтнай немкай, але праз некалькі пакаленняў, што пражылі на гэтай зямлі, зрабілася зусім мясцовай. Успаміны ж былі напісаны ў 1966 годзе ў Нюрнбергу, дзе яна тады жыла. Дык вось Юлія Дубейкаўская сведчыць, што Іван быў вельмі спагадлівы чалавек, цешыўся, калі хто шчыра працаваў на беларускай ніве. Як асаблівую рысу характару Івана Луцкевіча яна падкрэслівае, што працаваў ён не дзеля асабістай славы або амбіцый, а толькі дзеля справы. Калі нечага дабіваўся, вельмі радаваўся, але ніколі не ставіў таго сабе ў заслугу, а прызнаваў і заслугі іншых. Першае месца ў віленскім беларускім грамадзянстве ён заняў праз сваю адданую працу і веды, дыпламатычныя і палітычныя здольнасці.

— Як вы думаеце, Лявон Антонавіч, адкуль у Івана была гэта высокая нацыянальная свядомасць, патрэба працаваць дзеля адраджэння беларускай гісторыі, культуры, далучэння да сваіх вытокаў новых пакаленняў беларусаў? А калі ўспомніць створаны ім музей, якому аддадзена, можна сказаць, жыццё? Хіба мог такое зрабіць чалавек не апантаны, не асветлены ідэяй?

— Ён сапраўды быў апантаны і таму дабіваўся поспеху. А пачатак усяго — у сям'і. Сям'я Івана Якімавіча, бацькі Івана і Антона, а майго дзеда, была каталіцкай. Як у тыя часы было заведзена, у хаце гутарылі ў асноўным па-польску. Як афіцэр царскай арміі, дзед беззаганна валодаў расейскай мовай, але пры гэтым у сялянскім асяроддзі не цураўся мовы беларускай і шанаваў яе. Аб гэтым сведчыць зварот да яго па-беларуску Дуніна-Марцінкевіча і прыгожы верш, прысвечаны ім дзеду ў 1868 годзе. Іван Якімавіч і Дунін-Марцінкевіч сябравалі. І гэта была таксама зачэпка, што ўзбудзіла ў Івана зацікаўленасць мовай, паставіла пытанне: дык хто яны такія — палякі, ліцвіны ці хто іншы? Я б сказаў, што пошукі сябе як нацыі і вызначылі жыццёвы накірунак і Івана, і Антона. Іван быў вучнем III класа гімназіі ў Лібаве, калі зацікавіўся старасвеччынай. Манеты і медалі з тагачаснай калекцыі Івана можа і сталі пачаткам усіх яго музейных збораў. Пошукі ж ён потым не спыняў ніколі.

Калі бацька памёр, сям'я Луцкевічаў перабралася ў Мінск, дзе абодва браты вучыліся ў гімназіі, далучыліся да руху моладзі, сустрэліся з Карусем Каганцом. Для Івана Луцкевіча вызначальнай была сустрэча са старым археолагам і збіральнікам Генрыкам Татурам, з якім ён моцна пасябраваў, і гэта сяброўства яшчэ больш падштурхнула Івана да заняткаў археалогіяй і да паступлення ў Археалагічны інстытут у Пецярбургу. Калі пачалася вайна, лінія фронта раздзяліла Г. Татура і І. Луцкевіча. І Лявон Луцкевіч расказаў мне сапраўды фантастычную гісторыю, якую ў свой час пачуў ад бацькі. Я прываджу яе тут таму, што яна зноў-такі сведчыць пра адданасць Івана справе, настроенасць на чалавека, блізкага яму па духу і мэтах. Генрык Татур быў значна старэйшы за Івана, і калі яны расставаліся, сказаў Івану: "Я табе скажу, калі буду паміраць, абавязкова паведамлю пра гэта". Аднойчы Іван лёг спаць, а Антон яшчэ сядзеў над карэктурай. Іван раптам усхапіўся і кажа брату: "Ведаеш, Антон: Татур памёр". Раніцай яны сапраўды атрымалі сумную вестку.

Слухаючы Лявона Луцкевіча, адзначыла сама сабе: што б ні расказваў ён пра Івана, абавязкова згадваў і Антона. Мусіць, моцна яны былі знітаваны агульнай справай, інтарэсамі і мэтамі. Хто з іх на каго ўплываў, хто кім кіраваў?

Адказваючы мне, Лявон Антонавіч сказаў, што, на яго думку, братоў раздзяліць наогул немагчыма, яны працавалі, як цяпер гавораць, на адну ідэю. Ізноў жа здаецца мне вартай увагі спасылка на ўспаміны Ю. Дубейкаўскай. Яна піша: "Супольная праца мяне зблізіла і з Антонам, я часта сядзела з ім над апрацоўкай перакладаў і мемарыялаў. Іван іх толькі адобрываў, ён усім кіраваў. Антон рабіў усю пісьмовую працу, меў хуткае пяро і добры стыль, быў працавіты, як мурашка. Антон быў спакойны, рэдка выяўляў сваё незадавальненне, быў мяккага характару і лёгка паддаваўся ўплывам. Ён, як і Іван, быў адданы сваёй беларускай працы, але ў яго не было той энергіі, таго палёту і ўздыму, хоць быў вельмі амбітны, як у Івана... Антон быў добры, сумленны працаўнік беларускай справы, але, на жаль, не меў кіруючых уздальненняў і пачуцця ў палітыцы, што асабліва выявілася, калі падчас хваробы і смерці Івана ён сіліўся заступіць брата".

Напэўна, Ю. Дубейкаўская мела падставы менавіта так размеркаваць ролі паміж братамі Луцкевічамі. Іван сам зазначаў пра сябе: "... што да палітыкі, то я ёй служу ад маладых гадоў, каб узгадаваць беларускі народ да самастойнага жыцця".

— Летам 1919 года Антон Луцкевіч паехаў у Парыж на Версальскую канферэнцыю, дзе, хоць і малапаспяхова, прадстаўляў інтарэсы беларусаў, — расказваў Лявон Антонавіч. — Тых, хто сабраўся на тую канферэнцыю, лёс беларусаў абыходзіў гэтаксама, як сёння ў ААН абыходзіць лёс курдаў. Тым большым ударам было для бацькі, што ў самы гарачы пераломны час, калі вырашаўся лёс не толькі Беларусі, а і ўсіх краін Еўропы, ён страціў падтрымку брата ў сваёй палітычнай дзейнасці, самае горкае — страціў самога брата.

Кім усё ж такі быў Іван Луцкевіч для бацькі?

Раскажу адзін факт, вельмі, на мой погляд, красамоўны. У 1927 годзе, седзячы ў турме на Лукішках, бацька выношвае ідэю напісання кніжкі, прымеркаванай да 25-годдзя Беларускай сацыялістычнай грамады. У турме ў 1928 годзе кніжка была напісана. У прадмове аўтар просіць прабачэння ў чытачоў за магчымыя недакладнасці, таму што ён не мог карыстацца ніякімі матэрыяламі. Каму вы думаеце ён яе прысвяціў? "Прысвячаю светлай памяці Івана, павадыра, таварыша, брата". Вось так ён глядзеў на Івана, на ягоную ролю ў рэвалюцыйным руху, адчуваў і падкрэсліваў яго лідэрства.

Іван аб'ездзіў і абхадзіў усю Беларусь, папаўняючы свае калекцыі, радуючыся кожнай знаходцы. Ён хадзіў па розных установах, нечага дабіваўся, з некім спрачаўся. Ён быў арганізатарам.

— А самае галоўнае, што ў яго, мусіць, заўсёды былі новыя ідэі?

— Так. А бацька служыў для таго, каб ягоныя ідэі пераўвасабляць у канкрэтныя тэксты, артыкулы. Вядома, што дзядзька пісаў толькі ў тым выпадку, калі гэта патрэбна было да зарэзу. Іван часта падкідаў Антону тэмы, канцэпцыі, думкі, той скрупулёзна іх распрацоўваў. Разыходжання ў поглядах у іх не было.

— У каго ўзнікла ідэя стварыць легальную беларускую газету, якую мы сёння ведаем як "Нашу ніву"?

— Я думаю, што, як і ў большасці выпадкаў, ініцыятарам быў Іван. Ён кінуў думку, яна трапіла на адпаведны грунт, яе падхапілі аднадумцы.

Іван быў ініцыятарам стварэння музычна-драматычнага гуртка ў Вільні, па яго ініцыятыве адкрылася тут першая беларуская гімназія, працавала Беларускае выдавецкае таварыства. Варта яму было нешта скрануць з месца, і гэта нешта пачынала рухацца і развівацца.

Дзіяна ЧАРКАСАВА.



# ВЯРТАННЕ

Вільня. І як соладка, і як горка, калі вымаўляеш назву старажытнай нашай сталіцы... Тысячамі ніцей звязана душа з горадам, дзе спрадвеку жылі продкі: кахалі, гадавалі дзяцей, узводзілі велічныя храмы, друкавалі кнігі, у якіх услаўлялі сваю зямлю, здзяйснялі подзвігі. Вільня. Ты такая прыцягальная. Такая родная і прыгожая.

... Аўтобус, на якім трапечацца на ветры бел-чырвона-белы сцяжок, імкліва імчыць да горада нашай памяці. Падзея неардынарная: перапахаванне славутага дзеяча беларускай культуры, вучонага Івана Луцкевіча. Так многа гадоў замоўчвалася гэта імя. Але нельга закрэсліць зробленае ім. Паступова спадае заслона з вачэй яго няўдзячных нашчадкаў.

Смяротна хворы пакінуў Іван Луцкевіч у 1919 годзе Вільню. І заставаўся ў чужой зямлі аж да апошняга часу.

Вяртанне праз 72 гады... Гарача паліць сонца, буяе зеляніна. У такі самы ці падобны на гэты майскі дзень нарадзіўся Луцкевіч.

... Раскапана зямля на старых могілках Вільні. Тут даўно нікога не хаваюць. Для Луцкевіча — выключэнне. Прыехаўшыя з Мінска, Маладзечна госці, а таксама тутэйшыя беларусы цесным ланцугом абкружылі магілу. Гучыць малітва на роднай мове. Няхай твая душа, Іван Іванавіч, знойдзе спачын тут. Няхай тваё вяртанне будзе добрым знакам адраджэння нацыі, яе свядомасці і памяці.

Холадна, стыне цела ў Кафедральным саборы, дзе ідзе служба ў памяць Луцкевіча. Светлым сумам і гонарам за такога сына народа поўняцца словы святара ксяндза Чарняўскага.

Нешта падсвядомае штурхае з халоднага храма на гарачае сонца. Ногі нясуць да Вострай Брамы, да Базыльянскіх муроў. Тут нікога няма. Адна старая літоўка грэецца на сонцы. Ёй 75 гадоў. Нарадзілася, калі тут, у гэтым дворыку, хадзіў Луцкевіч, калі працавала беларуская гімназія, калі дзейнічаў Беларускі музей.

Няма цяпер музея, прыдбаныя на ўласны кошт Луцкевічам каштоўныя экспанаты апынуліся ў Дзяржаўным літоўскім музеі. Сваё абяцанне — вярнуць Базыльянскія муры іх законнаму ўладальніку — віленскім беларусам — мясцовыя літоўскія ўлады як быццам забыліся.

Старая літоўка прыносіць збан ледзяной вады (дзе ўзяла такую?): "Частуйцеся". Сапраўды, вада, як агонь.

Бывай, Вільня. Мы яшчэ прыедзем да цябе, Іван Іванавіч.

**НА ЗДЫМКАХ: на старых могілках Вільнюса ля магілы І. ЛУЦКЕВІЧА; шэсце на могілкі.**



*НАТАТКІ БІЁЛАГА*

# ПАРА, КАЛІ ЦАЛУЮЦЦА ЗОРЫ

Калі заканчваецца месяц май і ўсё навокал пакрываецца багатай зелянінай, незвычайна доўгімі становяцца дні і зусім кароткімі такія ж цёплыя ночы. Прырода як быццам спецыяльна затрымлівае надыход вячэрняй цемнаты, спрабуючы дапамагчы чалавеку па магчымасці атрымаць больш асалоды ад цудоўных чэрвеньскіх дзён. І не паспее яшчэ, здаецца, дагарэць як трэба развітальная вячэрняя зара, а на ўсходняй частцы гарызонта ўжо праглядаюцца пасвятлеўшыя абрысы пяшчотна-ружовай паласы досвітку. Ранішняя зара спяшаецца змяніць вячэрнюю. І ў народзе аб гэтым часе гавораць як аб пары, калі "цалуюцца зоры".

Якая дзівосная і прыгожая ў гэты перыяд прырода! Суцэльныя дываны з густога разнатраўя і мноства кветак усіх адценняў вясёлкі на ўсю шырыню ўсцілаюць цудоўную зямлю. Пачынаюць налівацца сокам плады, якія ўжо завязаліся на садовых дрэвах і цяжэюць з кожным днём. Дружна разрастаюцца пасевы "блакітнавокага" льну і пшаніцы, што ўстае сцяной. А канюшыннае поле — у суцэльных ярка-малінавых галоўках напоўненых нектарам кветак. І такое ж мноства пчол, шмялёў і матылькоў віецца над імі, збіраючы каштоўны прыродны дар і напаўняючы паветра мяккім гудзеннем і стойкім пахам мёду.

У лугах жа на ўсе лады стракоча шматлікае племя конікаў. І, бадай, далёка не кожны ведае, што на самай справе конікі зусім нямыя. Гэта доўгімі заднімі ножкамі, пакрытымі мноствам маленькіх шчарбінак, часта-часта труць яны па жорсткіх сваіх надкрыллях, утвараючы своеасаблівы гук.

А вось птушыныя галасы прыкметна прымоўклі. У большасці птушак у гнёздах з'явіліся дзеці. І ім цяпер ужо не да песень. Трэба карміць пастаянна галоднае, ненажэрнае патомства. На астатняе часу і ўвогуле не застаецца. Тэмп росту птушынага пакалення здзіўляе. Усяго за дватры тыдні дасягаюць гнездавыя птушаняты памераў дарослай асобіны. А колькі ежы для гэтага патрабуецца! За адны суткі птушаняты паядаюць корму больш, чым важаць самі. Па некалькі соцень разоў падлятаюць бацькі з кормам да гнязда. А птушаняты ўсё патрабуюць і патрабуюць, раскрываючы шырокія ярка афарбаваныя раты.

Да паўтары сотні дрэў абследуе даўгахвостая сініца толькі за адну гадзіну. Больш за пяцьсот порцый корму дастаўляе ў гняздо за суткі мухалоўка, і ў кожнай порцыі не адно, а цэлыя дзесяткі насякомых. А для стрыжа абляцець тысячу кіламетраў за светлавы дзень увогуле звычайная справа. І ў рацыёне — выключна шкоднікі садоў, лясоў і палёў.

Нават зязюля перастае кукаваць. Здавалася б, чаму? Яйкі ж яна ў чужыя гнёзды падкідвае. Але тым не менш зязюля — выключна карысная птушка. Сотнямі збірае і паядае яна шкодных вусеняў і асабліва валасатых, якімі грэбуюць іншыя птушкі. Перыяд гэты супадае з выхадам у колас ячменю. І гавораць, быццам зязюля "папярхнулася" асцюком. Але тут асцюк зусім ні пры чым: працай занятая зязюля — вусеняў збірае.

Па самых густых зарасніках водзіць свой вывадак шэранькі, злёгку ахрысты глушэц. І глушаняты такія ж. Асвойваюць прамудрасці самастойнай здабычы ежы. А ледзь пачуюць небяспеку — тут жа па сігналу маці на месцы замруць і затояцца (і разгледзець немагчыма, так зліваецца іх афарбоўка з прыземнай шэрасцю). Спосаб не занадта ўжо хітры, ды куды дзенешся, калі іншага ў глушцоў няма. А рабчыкі, тыя і ўвогуле ў непралазнай глушэчы сядзяць. Лінька ў іх, лятаць не могуць.

Паспяваюць на лясных палянах ягады. Спачатку ярка-чырвоныя суніцы, за імі — чарніцы і дурніцы. Так і прывабліваюць да сябе апетытныя маленькія шарыкі. Іх з задавальненнем дзяўбуць лясныя птушкі. Нават драпежнікі, што ў іншы час харчуюцца толькі жывёльнай ежай, пераключаюцца цяпер на незвычайны для сябе ласунак. Як гэта ні дзіўна, ягады ахвотна ядуць куніца, гарнастай, ласка, барсук. Што тут гаварыць, калі і вялікія мядзведзі ў гэты час пастаянна "пасвяцца" ў малінніках.

У чэрвені з'яўляюцца першыя сапраўдныя грыбы — каласавікі. Што ж гэта за грыбы такія? У навуковай літаратуры пра такія нібыта і не гаворыцца. Гэта і на самай справе так. Каласавікі — назва агульная, зборная. І называюцца яны так таму, што з'яўляюцца заўсёды якраз у перыяд каласавання жыта. А грыбы гэтыя самыя звычайныя — баравікі, падбярозавікі, падасінавікі, лісічкі.

Але нядоўгі перыяд каласавікоў. Так што, ледзь выйшла жыта ў колас — не траць часу, грыбнік. Толькі адзін — два тыдні парадуюць яны аматараў ціхага палявання і зноў знікнуць, каб з'явіцца месяцы праз два — у жніўні, кастрычніку. Праўда, будзе іх тады багата, мноства. Але гэтай пары яшчэ дачакацца трэба.

**Вячаслаў СТОМА.**



## ТЫДЗЕНЬ АДРАДЖЭННЯ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ





**У мінскай школе № 70 прайшоў Тыдзень адраджэння беларускай культуры. Адзін з дзён быў прысвечаны веснавой абрадавай паэзіі беларусаў, дзіцячаму фальклору.**

**— Ці трэба вам вясна-красна? Ці дазволіце вясну-красну заклікаць? — звяртаецца да дзяцей і гасцей другакласнік Слава Лабко.**

**— Трэба! Трэба! — дружна адгукаецца зала.**

**І пачалося цудоўнае свята народнай музычнай і паэтычнай творчасці.**

**Дзеці вадзілі карагоды, спявалі абрадавыя песні, танцавалі, уцягваючы ў агульны круг усіх прысутных.**

**Свята так спадабалася ўсім, што яго вырашылі паўтарыць на прыродзе. Так і зрабілі нядаўна. Надвор'е ў той дзень спрыяла, а школьны двор, на якім паўтарылася святкаванне, на зайздрасць іншым школьным дварам, вельмі вялікі, зялёны, нават маляўнічы.**

**— У падрыхтоўцы і правядзенні фальклорнага свята ўдзельнічала практычна ўся школа, — гаворыць настаўніца Святлана Румянцава, вялікі аматар фальклору. — Педагогі і вучні першых класаў сплялі вянкі, выкладчык музыкі Л. Ткачэнка развучвала з настаўнікамі і дзецьмі абрадавыя песні, бацькі вучняў пяклі "жаўручкоў" — абрадавае паднашэнне, старшакласнікі ўпрыгожвалі залу. У свяце прыняў удзел харэаграфічны калектыў Рэспубліканскага цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей. Кансультацыі па дзіцячаму фальклору давала старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР Г. Барташэвіч.**

**НА ЗДЫМКАХ: некалькі імгненняў вясёлага свята.**

**Фота Ю. ЗАХАРАВА.**

## *СПОРТ*

Май аказаўся вельмі ўдалым для беларускіх спартсменаў, якія ўдзельнічалі ў міжнародных еўрапейскіх турнірах і першынствах кантынента.

Пачнём з чэмпіянату Еўропы па сучаснаму пяцібор'ю, які прайшоў у Сафіі. Гамяльчанка Жанна Далгачова заваявала тут залаты медаль у асабістым заліку. Яшчэ адна вышэйшая ўзнагарода ўручана ёй за камандную перамогу.

З вялікім запасам медалёў — восем залатых, адзін сярэбраны і адзін бронзавы — вярнуліся дамоў з Тэль-Авіва савецкія майстры самба. Нашы барцы прымалі ўдзел у першынстве кантынента. Сярод пераможцаў быў і мінчанін Мікалай Цыпандзін. Яго зямляк Націк Багіраў узнагароджаны бронзавым медалём.

А ў Германіі за чэмпіёнскія тытулы вялі барацьбу барцы вольнага стылю. Першае месца дасталася камандзе Савецкага Саюза. У складзе яе выступаў гамяльчанін Вугар Аруджаў, які ў асабістым заліку быў трэцім.

У розыгрышы Кубка ўладальнікаў кубкаў еўрапейскіх краін па хакею на траве дэбютавалі спартсменкі гродзенскага "Рытму", і вельмі ўдала. Беларускія хакеісты дайшлі да фіналу і ў Гаазе сустрэліся з англійскім клубам "Ісепсент". Асноўны час завяршыўся ўнічыю — 1:1. А ў серыі пасляматчавых пенальці "Рытм" аказаўся больш дакладным — 5:4 і заваяваў галоўны прыз.

У Берліне прайшоў буйны міжнародны турнір. Наталля Зверава разам з масквічкай Ларысай Саўчанка былі мацнейшымі ў парным разрадзе.

Там жа, у Германіі, але ўжо ў рамках чэмпіянату свету па цяжкай атлетыцы сярод юніёраў віцябчанін Юрый Нікіфараў у вагавой катэгорыі да 82 кілаграмаў стаў сярэбраным прызёрам. І гэты дэбют будзем лічыць нядрэнным для пачатку спартыўнай кар'еры маладога беларускага асілка.

Цяпер аб футболе. Як вядома, некалькі ігракоў з каманды мінскага "Дынама" выступаюць у еўрапейскіх клубах. Далейшы лёс кожнага з іх пакуль не зусім вядомы.

Напрыклад, няўдала закончыла сезон італьянская каманда "Лечэ", за якую гуляе Сяргей Алейнікаў. Цяпер ёй прыйдзецца расстацца з вышэйшай лігай і... з Сяргеем Алейнікавым. "Зорка" сусветнага футбола, беларускі спартсмен заявіў, што не мае намеру гуляць у другой лізе.

Не заключаны кантракт Віктара Янушэўскага з англійскай камандай "Алдзершот", хаця мінчанін добра правёў стажыроўку ў гэтым клубе.

І толькі наш зямляк Сяргей Гоцманаў спакойны. На пытанне журналістаў, як справы, ён лаканічна адказаў: "Англійскі клуб "Саўтгемптон" толькі што прадоўжыў са мною кантракт яшчэ на год".

У заключэнне некалькі слоў аб прайшоўшым у Маскве пленуме Федэрацыі хакея СССР, які быў прысвечаны праблемам гэтага віду спорту ў краіне, вынікам зборнай на міжнароднай арэне. Тут жа вырашаўся лёс некаторых каманд, у тым ліку і мінскага "Дынама". Цяпер мы можам з палёгкай уздыхнуць: беларускія хакеісты засталіся ў вышэйшай лізе. На пленуме прынята рашэнне чарговы чэмпіянат краіны правесці па новай формуле, па правілах прафесіянальнага хакея.

3 мая адбылася змена галоўнага трэнера мінчан. Цяпер іх настаўнікам стаў Уладзімір Сафонаў. Ён раней трэніраваў многія каманды: маладзёжную краіны, зборную рэспублікі, польскі клуб "Кракоўя". Так што пачакаем восені. Спадзяёмся на добрыя перамены ў гульнях галоўнай каманды рэспублікі.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Заказ № 807.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 110 11 12 М1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12